Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ
САБОЙ І МАСАМІ — АСНОВА
САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР

30 СЬНЕЖНЯ 1929 г.

№ 15 (74)

V-ты год выданьня

ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК
І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР
МЕНСК — 1929 г.

# З Ь М Е С Т

## 1. Ад Урадавай Камісіі СНК БССР па падрыхтоўцы правядзеньня 7-гадзіннага рабочага дня на прадпрыемствах БССР.

Перавесьці ў 1929/30 г. на 7-гадзінны рабочы дзень наступныя прадпрыемствы:

**У першым квартале:**

1. Дражджавы завод „Чырвоная Зара“ ў Менску . . 15/XII 1929 г.
2. Дражджавы завод „Аслабанёная Праца“ ў Віцебску. 15/XII 1929 г.
3. Завод „Чырвоны Хэмік“ у Нова-Беліцы Гомельск. акр.. 20/XII 1929 г.

**У другім квартале:**

4. Фасфарытны завод у Клімавічах Магілеўск. акр. . . 1/II 1930 г.
5. Завод „Дрэваапрацоўшчык“ у Менску . . . . . 1/II 1930 г.
6. Завод сельгасмашын у Гомелі . . . . . . . . 1/III 1930 г.

**У трэцім квартале:**

7. Фасфарытны завод у Крычаве . . . . . . . 1/IV 1930 г.
8. Фанэрны завод „Зьвязда“ ў Капцэвічах . . . . 1/V 1930 г.
9. Фанэрны завод „Чырвоны Кастрычнік“ у Мазыры . 1/V 1930 г.
10. Скурзавод „Бальшавік“ у Менску . . . . . . 1/V 1930 г.
11. Скурзавод у Віцебску . . . . . . . . . . 1/V 1930 г.
12. Мастаўёвы завод у Магілеве . . . . . . . . 1/V 1930 г.
13. Шклозавод ім. Домбаля ў Барысаве. . . . . . 1/VI 1930 г.

**У чацьвертым квартале:**

14. Шклозавод „Труды“ ў Полацкай акрузе . . . . 1/VIII 1930 г.
15. Мармэладная фабр. у Бабруйску . . . . . . 1/VIII 1930 г.
16. Фанэрны завод № 7 у Віцебску . . . . . . 1/VIII 1930 г.
17. Макаронная фабрыка ў Барысаве . . . . . . 1/VIII 1930 г.
18. Электрастанцыя імя Сталіна „Асінбуд“ . . . . 1/VIII 1930 г.
19. Акулярная фабрыка імя Розы Люксэмбург у Віцебску . . . . . . . . . . . . . верасень 1930 г.
20. Швэйная фабрыка (новая) у Віцебску . . . . верасень 1930 г.
21. Папяровая фабр. „Чырвоная Зорка“ ў Чашніках . жнівень 1930 г.
22. Каніфольна-шпігінарны завод Наркамзему ў Барысаве . . . . . . . . . . . . . . 1/I 1930 г.
23. Хэмфармазавод Белмэдгандалю ў Менску . . . . . 1/I 1930 г.
24. Хлебазавод МЦРК у Менску . . . . . . . . . 1/I 1930 г.

Нам. Старшыні Ўрадавай Камісіі *Д. Захарава.*

Адказны Сакратар *Х. Гольдзінберг.*

3 сьнежня 1929 г.

## 2. Пастанова Народнага Камісарыяту Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР

### пра парадак прыёму на працу зволеных па чыстцы апарату.

У сувязі з чысткай апарату ў органы РСІ часта зварочваюцца як установы, так і асобы, зьнятыя з працы, за тлумачэньнямі наконт пасылкі і прыёму на працу зволеных па чыстцы. НКРСІ растлумачвае, што пастановы аб зьняцьці з працы па чыстцы павінны заносіцца ў працоўныя сьпісы. Ніякіх асобных і дадатковых тлумачэньняў да гэтых пастаноў ні камісіі па чыстцы ні органы РСІ не павінны даваць, бо ў саміх пастановах дакладна і падрабязна гаворыцца аб тым, дзе і якая праца забараняецца данай асобе, чым абмяжоўваецца права на працу і г. д. Такім чынам, з аднаго боку, ніводная ўстанова ня мае права прымаць на працу зволеных па чыстцы, калі ёсьць забарона, альбо суадпаведнае абмежаваньне, а з другога боку — калі па чыстцы апарату той ці іншай асобе не забараняецца праца ў суадпаведных галінах працы, ці ў суадпаведных мясцох, ці на пэўных пасадах і г. д., дык ніякага асобнага дазволу ад РСІ на прыём такіх асоб не патрабуецца і ўстановы павінны самі вырашаць пытаньне, паводле запісу ў прац. сьпісу, ці прымаць на працу тую або іншую асобу, бо адказнасьць за прыём служачых цалкам ляжыць на адміністрацыі ўстаноў. Літаральны запіс у працоўных сьпісах пастаноў камісій па чыстцы праводзіцца суадпаведнай установай пад адказнасьцю адміністрацыі апошняй, але адносна тых служачых, наконт якіх ня вынесена адмоўных пастаноў па чыстцы, ніякіх адзнак у працоўным сьпісу ня робіцца (напрыклад: „чыстку прайшоў“).

Пры звычайным звальненьні альбо ўходзе служачага з працы ў прац. сьпісу робіцца звычайная адзнака аб звальненьні.

Выходзячы з гэтага, НКРСІ БССР растлучмавае, што органы РСІ і камісіі па чыстцы апарату ніякіх асобных тлумачэньняў, дазволаў, забарон, апроч таго, што запісана ў прац. сьпісе, даваць ня будуць, а ўсе ўстановы павінны кіравацца гэтымі запісамі.

Нам. Народнага Камісара РСІ БССР *Рыскін.*

14 сьнежня 1929 г.

---

## 3. Абежнік Камітэту Будаўніцтва пры Эканамічнай Нарадзе БССР

### пра арганізацыю работ па нармаваньню і рацыяналізацыі будаўніцтва, што праводзіцца на тэрыторыі БССР.

*(Выдаецца на падставе пастановы Камітэту па Будаўніцтву пры СПА за 16/I—1929 г. і пастановы Экан. Нарады БССР за 2/VIII—1929 г.).*

1. Для правядзеньня работ па тэхнічнаму нармаваньню і рацыяналізацыі на тэрыторыі БССР павінны быць утвораны наступныя органы:

а) непасрэдна на ўсіх буйных пабудовах — нарматыўна-рацыяналізатарскія ячэйкі (НРЯ);

б) пры цэнтральных апаратах бударганізацый—бюро нармаваньня і рацыяналізацыі (БРН);

в) пры акруговых кіраўніцтвах будаўнічага кантролю (АКБК) — сталыя акруговыя нарады нарміровачных і рацыяналізатарскіх аргазацый;

г) пры Камітэце Будаўніцтва — Рэспубліканская Сталая Нарада нарміровачных і рацыяналізатарскіх арганізацый.

2. Нарматыўна-рацыяналізатарскія ячэйкі арганізуюцца непасрэдна на ўсіх буйных пабудовах і праводзяць нарматыўна-рацыяналізатарскую работу на паасобных будаўніцтвах, як па паказаньнях вышэйстаячых органаў, так і па ўласнай ініцыятыве.

3. Бюро нармаваньня і рацыяналізацыі пры цэнтральных кіраўніцтвах бударганізацый арганізуюцца ў выглядзе органу, уваходзячага ў апарат бударганізацыі і знаходзячагася ў веданьні кіраўніка данай будаўнічай канторы.

4. У кампэтэнцыю бюро нармаваньня і рацыяналізацыі ўваходзіць арганізацыя на пабудовах нарматыўна-рацыяналізатарскіх ячэяк, кіраўніцтва і аб'яднаньне работы паасобных ячэяк, узгадненьне плянаў і падлік дасягненьняў нарматыўна-рацыяналізатарскіх ячэяк, зьбіраньне матарыялаў і накіраваньне іх у стаячыя вышэй органы нармаваньня і рацыяналізацыі.

5. Бюро рацыяналізацыі і нармаваньня і нарматыўна-рацыяналізатарскія ячэйкі ўвязваюць сваю працу з дзейнасьцю вытворчых камісій і нарад, зварочваючы асаблівую ўвагу на падлік прапаноў, унесеных рабочымі на вытворчых нарадах.

6. БРН і НРЯ складаюць на кожны год плян працы, уключаючы ў яго вырашэньне зусім канкрэтных пытаньняў па нармаваньню і рацыяналізацыі будаўніцтва, ахопліваючых будаўнічы працэс і яго элемэнты, пабудовы і паасобныя канструкцыі яго, кіраваньне будаўніцтвам, вывучэньне працоўных працэсаў, устанаўленьне мясцовых норм і г. д.

7. Сродкі на ўтрыманьне нарматыўна-рацыяналізатарскіх ячэяк і і бюро выдаюцца па будаўнічых каштарысах у разьмерах і на падставах, паказаных у пастанове Камітэту па Будаўніцтву пры СПА за 24/XII—1928 г. (гл. №№ 5, 8, і 9 газэты „Экономическая Жизнь“ за 6, 10 і 11 студзеня 1929 г.).

8. На падставе арт. 1, 3 і 7 гэтай пастановы запрапанаваць усім будаўнічым організацыям БССР, якія ня маюць у гэты момант у сваім апараце нарміровачна-рацыяналізатарскіх бюро, арганізаваць такія не пазьней 1-го студзеня 1930 г.

9. Запрапанаваць усім БРН пры цэнтральных апаратах бударганізацый скласьці не пазьней 1/II—1930 г. канкрэтны плян працы бюро на надыходзячы 1930 г., у адпаведнасьці з арт. арт. 4, 5 і 6 гэтае пастановы, уключыўшы ў гэты плян і арганізацыю НРЯ на ўсіх буйных пабудовах.

10. У склад акруговых сталых нарад уваходзяць — Начальнік АКБК (Старшыня Нарады), прадстаўнікі нарміровачна-рацыяналізатарскіх ячэяк, дзейнічаючых на тэрыторыі данай акругі, і акруговых прафэсійных арганізацый.

11. У кампэтэнцыю акруговых сталых нарад уваходзіць абмен вопытам, узгадненьне плянаў паасобных БРН, аб'яднаньне ўсёй рацыяналізатарскай працы, якая вядзецца на тэрыторыі данай акругі, унядрэньне ў будаўніцтва рацыяналізатарскіх і нарматыўных дасягненьняў і ўтварэньне мясцовых бюро.

12. У склад Рэспубліканскае Сталае Нарады ўваходзяць прадстаўнікі Камітэту Будаўніцтва, буд. сэкцыі Дзяржпляну, ВСНГ, ІТС і БРН цэнтральных апаратаў бударганізацый.

13. Задачай Рэспубліканскае Нарады зьяўляецца аб‘яднаньне і рэгуляваньне дзейнасьцю БРН у адносіне мэтодолёгічнай правільнасьці і плянавасьці іх працы, унядрэньне на будаўніцтвах рацыяналізатарскіх дасягненьняў, аб‘яднаных БРН, зьбіраньне, сыстэматызацыя, распрацоўка і выданьне зборнікаў, бюлетэняў з матарыяламі аб дасягненьнях па рацыяналізацыі і нармаваньню будаўніцтва, правядзеньне масавага абгляду работы БРН, абмен вопытам з такімі-ж аб‘яднаньнямі іншых рэспублік, арганізацыя сталых акруговых нарад і рэгуляваньне іх работы.

14. Сацыялістычнае спаборніцтва паміж паасобнымі рацыяналізатарскімі органамі і іх аб‘яднаньнямі павінна стаць адным з найбольш важных фактараў у справе найлепшай пастаноўкі рацыяналізацыі і нармаваньня будаўніцтва.

15. На паасобных будаўніцтвах улічваюцца дасягненьні і іх эканамічны эфэкт ня толькі ад ужываньня рацыяналізатарскіх прапаноў данага будаўніцтва, але і ад ужываньня дасягненьняў, што ажыцьцяўляюцца па ініцыятыве кіруючых і рэгулюючых органаў і розных навукова-дасьледчых устаноў.

16. Рацыяналізатарскія мерапрыемствы і нормы, якія даюць эканамічны эфэкт, могуць уводзіцца ў практыку данага будаўніцтва па загаду асобы, якая праводзіць работу, альбо кіраўніка прадпрыемства.

Старшыня Камітэту Будаўніцтва
пры Эканамічнай Нарадзе БССР *А. Гейнэ.*

Сакратар *М. Сецко.*

6 сьнежня 1929 г.

---

## 4. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра прафэсійныя кансультацыі і прафэсійны адбор беспрацоўных.**

На падставе пастановы Савету Народных Камісараў Саюзу ССР за 8 кастрычніка 1929 г. пра прафэсійныя кансультацыі і прафэсійныя адборы беспрацоўных (З. З. СССР 1929 г., № 65, арт. 611), Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Усю работу па кіраўніцтву, арганізацыі і правядзеньні прафэсійнай кансультацыі і прафэсійным адборы беспрацоўных сканцэнтраваць у органах Народнага Камісарыяту Працы БССР.

2. Беспасрэдную работу па кіраўніцтву, арганізацыі і правядзеньні прафэсійных кансультацый і прафэсійным адборы ўскласьці на Інстытут Аховы Працы пры НК Працы БССР.

3. Даручыць Інстытуту Аховы Працы ў месячны тэрмін арганізаваць прафкансультацыю і прафадбор беспрацоўных у самім Інстытуце і адпаведныя ячэйкі ў гарадох Віцебску, Гомелі і Магілеве. Выдаткі для правядзеньня гэтай работы прадугледзець па каштарысу Інстытуту.

4. Даручыць Інстытуту Аховы Працы сумесна з адпаведнымі біржамі працы ўстанавіць кантынгэнт беспрацоўных, якія падлягаюць прафэсійнаму адбору і прафэсійнай кансультацыі перад пасылкай на работу і скласьці канкрэтны плян на 1929/1930 год.

5. Забараніць усім іншым арганізацыям і ведамствам праводзіць работу па арганізацыі прафэсійнай кансультацыі і прафэсійным адборы без угадненьня ў кожным паасобным выпадку з Інстытутам Аховы Працы альбо яго філіаламі на мясцох.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

Ст. Інспэктар па рэгуляваньню рынку працы НКП БССР *С. Мышалаў.*

10 сьнежня 1929 г.
№ 78.

## 5. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра ўвядзеньне ў сілу на тэрыторыі БССР абавязковае пастановы НК Працы СССР за 13/X-1929 г. № 334 „Правила по устройству и содержанию свето-лечебных кабинетов“.

Народны Камісарыят Працы БССР на падставе арт. 12 абавязковае пастановы НК Працы СССР за 13 кастрычніка 1929 г. № 334 „Правила по устройству и содержанию свето-лечебных кабинетов“ („Изв. НКТ“ 1929 г. № 47) пастанаўляе ўвесьці паказаную вышэй пастанову ў сілу на тэрыторыі БССР.

Народны Камісар Працы БССР *М. Гнілякевіч.*

19 сьнежня 1929 г.
№ 79.

## 6. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра спэцвопратку для работнікаў асьветы.

На падставе арт. 141 Кодэксу аб Працы БССР Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе ўстанавіць для работнікаў асьветы наступныя нормы спэцвопраткі:

| | |
|---|---|
| 1. Выхавальнікі дзіцячых дамоў, садоў, ачагоў, пляцовак, настаўнікі 0,1 груп школ . . . | 2 халаты на 1 год. |
| 2. Выкладчыкі фізыкі, хэміі, сельскагаспадарчых дысцыплін і маляваньня . . . . | 1 халат на 1 год. |
| 3. Бібліятэкары . . . . . . . | 2 халаты на 1 год. |
| 4. Працаўнікі хэміка-тэхнічных, хэмічных лябараторый і хэмічных лябараторый спэцыяльнага тыпу і фізыалёгіі, габінэтаў заалёгіі, мінэралёгіі, біялёгіі, фармакалёгіі, гісталёгіі, агульнай гігіены, хірургічных клінік, анатамічных габінэтаў і вэтэрынарных клінік . . . . . . .<br>Увага: Калі працаўнікі выконваюць абавязкі прыбіральшчыкаў, дык яны атрымліваюць спэцвопратку, апроч паказанай, як і прыбыральшчыкі, г. зн. яшчэ 1 халат на 1 год, касынку да зношаньня, скураныя камашы—1 пару на 1 год. | 1 халат з лёгкай тканіны на 1 год. Гумавыя рукавіцы ў лябараторыі ў патрэбнай колькасьці для карыстаньня пры працы з кіслотамі, фартух цыратавы з нагруднікам да зношаньня пры ўдзеле ў апэрацыях. |
| 5. Інструктары Тэхнікумаў, школ і майстэрняў | 1 рабочы касьцюм з лёгкай тканіны на 1 год. |

| | |
|---|---|
| 6. Выкладчыкі, прэпаратары, асыстэнты, асьпіранты, прафэсары, дацэнты, навук. працаўнікі хэміка-аналітычных, хэміка-фізыалёгічных лябараторый, хэмічных лябараторый спэцыяльнага тыпу (глебазнаўчых, агра-хэмічных, тэхналёгічных), анатамічных і хірургічных габінэтаў, хірургічных клінік, вэтэрынарных клінік, лябараторый мікрабіалёгічных, гісталёгічных і біалёгічных; лябаранты ўсіх відаў лябараторый — заалёгічных, батанічных фізычных, гісталёгічных, мікрабіялёгічных, агульнай гігіены, анатамічных, хірургічных, габінэтаў анатамічных, хірургічных і вэтэрынарных клінік . . | 2 халаты на 1 год, акуляры сінія, рукавіцы гумавыя, фартух цыратавы, нарукаўнікі пры працы з трупамі і кіслотамі. |
| 7. Працаўнікі рэнтгэнаўскіх габінэтаў . . | 2 халаты на 1 год. Фартух з прасьвінцаваным нагруднікам да зношаньня. Рукавіцы да зношаньня. Галаўны ўбор да зношаньня. Акуляры з каляровага шкла. |

Народны Камісар Працы БССР *М. Гнілякевіч.*

Ст. Праўны Інспэктар НКП БССР *Х. Гольдзінберг.*

19 сьнежня 1929 г.
№ 80.

---

## 7. Тлумачэньне Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра аплату працы вучняў вышэйшых навуковых установ і тэхнікумаў за час вытворчай практыкі.

Народны Камісарыят Працы БССР на падставе пастановы НКП СССР за 30/VII 1929 г. № 241 „Аб умовах працы вучняў вышэйшых навучальных установ і тэхнікумаў за час вытворчай практыкі“ („Изв. НКТ“ 1929 г. № 32-33) растлумачвае, што паказаныя вучні павінны атрымліваць узнагароду па наступных падзённых сталых стаўках:

| | у прадпрыемствах | ва ўстановах |
|---|---|---|
| вучні 1 і 2 курсаў . . . . | 1 р. 50 к. | 1 р. 25 к. |
| вучні астатніх курсаў . . . . | 2 р. — к. | 1 р. 75 к. |

Народны Камісар Працы БССР *М. Гнілякевіч.*

Ст. Інспэктар па рэгуляваньню рынку
працы НКП БССР *С. Мышалаў.*

29 сьнежня 1929 г.
№ 81.

## 8. Пастанова Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

### пра арганізацыю паляўнічага заказьніку ў Стрыжаўскай дачы Бешанковіцкага лясьніцтва Віцебскай акругі.

Народны Камісарыят Земляробства БССР пастанаўляе:

Арганізаваць паляўнічы заказьнік у Стрыжаўскай дачы Бешанковіцкага лясьніцтва Віцебскай атругі тэрмінам на 5 год, з 1 чэрвеня 1929 г. да 1 чэрвеня 1934 г., на плошчы 4641 га, у настунных межах: пачатковы пункт — стык меж землякарыстаньняў вёсак: Забор'е, Быцова і Стрыжаўскай дачы; адгэтуль мяжа заказьніку ідзе па мяжы дзяржаўнага ляснога фонду і землякарыстаньняў вёсак: Быцова, Саўрасы, Дубішча і Балбечы да месца падыходжаньня Стрыжаўскай дачы да р. Заходняй Дзьвіны. Далей — па берагу р. Заходняй Дзьвіны да землякарыстаньня вёскі Царкавішча, а адгэтуль па мяжы дзяржаўнага ляснога фонду і землякарыстаньняў вёсак Царкавішча, Варахопкі, Залужжа, Пяцігорак, Дукоўшчына, Забор'е да пачатковага пункту.

Нам. Народнага Камісара
Земляробства БССР *К. Масюкоў.*

Нам. Заг. Ляснога Кіраўніцтва НКЗ БССР *Пятрушын.*

Інспэктар паляўнічай гаспадаркі *Дзярыба.*

20 сьнежня 1929 г.

---

## 9. Пастанова Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

### пра арганізацыю паляўнічага заказьніку ў Белабярэскай дачы Махаедаўскага лясьніцтва Мазырскае акругі.

Для захаваньня і павялічэньня паляўнічай фаўны і паводле пастановы Эканамічнай Нарады пры СНК БССР за 17 чэрвеня 1929 г. Народны Камісарыят Земляробства БССР пастанаўляе:

Арганізаваць паляўнічы заказьнік у Белабярэскай дачы Махаедаўскага лясьніцтва Мазырскай акругі на плошчы 4200 га, тэрмінам на 5 год, пачынаючы з 15 сьнежня 1929 г. і да 15 сьнежня 1934 г., у наступных межах:

Пачатковы пункт — стык 23, 33 і 34 кварталаў. Ад слупа, які адзначае гэты пункт — на ўсход па квартальнай прасецы паміж кварталамі 23-34, 24-35, 25-36, 26-37 і 27-38. Далей па мяжы з сенажацямі грамадзян вёскі Белы Бераг і Белабярэская Рудня, уключаючы ў заказьнік землі сельскагаспадарчага карыстаньня, да слупа паміж 29-30 кварталамі, адтуль мяжа паварачвае на поўдзень і перасякаючы сенажаць грамадзян вёскі Белы Бераг і Белабярэская Рудня, праходзіць па квартальнай прасецы паміж 50-51 кварталамі, далей праз сенажаці грамадзян села Махаеды і Храпунь па ўсходняй мяжы 83-95 кварталаў і квартальнай прасецы паміж 95 і 96 кварталамі да мяжы Белабярэскай і Махаедаўскай дачы. Адгэтуль на захад па мяжы гэтых двух дач да квартальнага слупа 88-89 кварталаў, які зьяўляецца канчатковым пунктам паўднёва-заходняга боку заказьніка. Ад гэтага слупа мяжа ідзе на поўнач па прасецы паміж кварталамі 88-89, 76-77, 66-67, 56-57, 43-44 і 33-34 да канчатковага пункту.

На землях сельскагаспадарчага карыстаньня, якія знаходзяцца ў межах заказьніку, паляваньне забараняецца.

Даручыць лясьнічаму Махаедаўскага лясьніцтва вызначыць межы ў натуры з пастаноўкай адметных слупоў, паводле маючыхся паказаньняў.

Нам. Народнага Камісара
Земляробства БССР *К. Масюкоў.*

Нам. Загадчыка Лясного Кіраўніцтва
НКЗ БССР *Пятрушын.*

Інспэктар паляўнічай гаспадаркі *Дзярыба.*

20 сьнежня 1929 г.

---

## 10. Абежнік Народнага Камісарыяту Фінансаў і Народнага Камісарыяту Сацыяльнага Забясьпечаньня БССР

### пра парадак выплаты пэнсіі і сталых дапамог кантынгэнту органаў сацыяльнага забясьпечаньня ў сельскіх мясцовасьцях.

*Усім акруговым фінансавым аддзелам, акруговым інпэктарам сацыяльнага забясьпечаньня і раённым выканаўчым камітэтам.*

У мэтах набліжэньня выплаты пэнсіі да месца пражываньня асоб, устанавіць з першага студзеня 1930 г. наступны парадак выдачы пэнсіі і дапамог кантынгэнту органаў сацыяльнага забясьпечаньня:

1. Крэдыты на выплату пэнсіі і сталых дапамог кантынгэнту сацыяльнага забясьпечаньня праходзяць па бюджэту тэй адміністрацыйнай адзінкі, на тэрыторыі якой пражываюць асобы, атрымліваючыя пэнсію, гэта значыць па бюджэту адпаведнага местачковага альбо сельскага савету.

На выплату пэнсіі асобам, якія пражываюць на тэрыторыі местачковага альбо сельскага савету, якія ня маюць сваіх самастойных бюджэтаў, крэдыты ўключаюцца ў бюджэт адпаведнага раёну.

2. Пэнсіі і дапамогі выплачваюцца з местачковых альбо сельскіх саветаў: а) асобам, якія пражываюць на тэрыторыі местачковых і сельскіх саветаў, маючых самастойныя бюджэты — з сродкаў, паступаючых у бюджэты гэтых саветаў і б) асобам, пражываючым на тэрыторыі саветаў, ня маючых самастойных бюджэтаў — з сродкаў, передаваемых ім з адпаведных раённых выканаўчых камітэтаў.

3. У тых выпадках, калі пэнсіі і дапамогі выплачваюцца праз саветы, якія ня маюць самастойных бюджэтаў, раённыя выканаўчыя камітэты за некалькі дзён да наступленьня тэрміну выплаты пэнсіі, перадаюць у адпаведныя саветы, праз пошту альбо праз спэцыяльна ўпаўнаважаных асоб, сьпісы пэнсіянэраў, пражываючых на тэрыторыі саветаў, а таксама і патрэбную на гэта суму грошай.

Замест перадачы ў савет гатоўкі на выплату пэнсіі, РВК можа дазволіць савету выплату пэнсіі рабіць за лік сродкаў, якія паступаюць апошняму па сельскагаспадарчаму падатку, у страхавыя плацяжы і г. д.

4. На выплату пэнсіі і дапамог раённыя выканаўчыя камітэты і саветы, маючыя самастойныя бюджэты, складаюць ведамасьць па

ф. № 21, прадугледжаную інструкцыяй па рахункаводзтву і справаздачнасьці раённых выканаўчых камітэтаў, гарадзкіх, местачковых і сельскіх саветаў на 1929-30 г.

Форма ведамасьці дадаецца.

Ведамасьць складаецца на адзін месяц з паказаньнем: чарговага нумару, прозьвішча і імя пэнсіянэра, № пэнсійнай кніжкі альбо пасьведчаньня, назвы месяцу, за які пэнсія выдаецца і належачай да выплаты сумы.

Асобы, атрымаўшыя пэнсію, павінны расьпісацца ў графе 7-й ведамасьці.

5. Пэнсія (дапамога) выдаецца па прад'яўленьні пэнсійнае кніжкі альбо спэцыяльнага пасьведчаньня на атрыманьне пэнсіі.

Пры выдачы пэнсіі на паказаных вышэй дакумэнтах робіцца адзнака, калі, за які месяц і ў якой суме пэнсія выдадзена.

6. Калі за атрыманьнем пэнсіі зьявіцца ня сам інвалід, а ўпаўнаважаная ім асоба, тады ад апошняй патрабуецца прад'яўленьне пісьмовага на гэта даручэньня інваліда.

7. Пасьля выдачы пэнсіі ўсім пералічаным у ведамасьці асобам, яна пакідаецца пры грашовых дакумэнтах савету альбо перадаецца ў РВК, калі грошы на выплату пэнсіі былі адпушчаны з раённага бюджэту.

У апошнім выпадку разам з ведамасьцю (ф. № 21) у РВК перадаюцца і грошы, нявыдадзеныя па якіх-небудзь прычынах пэнсіянэрам.

Ведамасьць і грошы зварочваюцца ў РВК не пазьней як праз 2 тыдні пасьля атрыманьня іх з РВК.

8. Пэнсія, ня выдадзеная ў мінулым месяцы з прычыны няяўкі пэнсіянэра, ўключаецца ў ведамасьць (ф. № 21), якая складаецца на наступны месяц.

Асобы, якія ў свой час не змаглі атрымаць пэнсіі з савету, які ня мае самастойнага бюджэту, могуць атрымаць належачыя ім грошы з раённага выканаўчага камітэту.

9. Для падліку пэнсіянэраў і асоб, атрымліваючых пасобкі ў раённых выканаўчых камітэтах і саветах, якія маюць самастойныя бюджэты, вядуцца карткі асабовых рахункаў пэнсіянэраў па ф. № 11, прадугледжанай інструкцыяй, памянёнай у п. 4 гэтага абежніку.

Карткі па ф. № 11 заводзяцца асобна на кожнага пэнсіянэра; у картках адзначаецца: прозьвішча і імя пэнсіянэра, яго адрас, на падставе чаго, з якога часу і ў якой суме пэнсія альбо дапамога назначаны, група інваліднасьці ці стан забясьпечваемага, тэрмін пераглядy становішча здароўя пэнсіянэра і № пэнсійнай кніжкі альбо пасьведчаньня.

Пры кожнай выдачы пэнсіі альбо пасобку ў картцы адзначаецца: час выдачы, за які месяц і ў якой суме пэнсія выдадзена.

Форма карткі дадаецца.

10. Выкладзены ў гэтым абежніку парадак выдачы пэнсіі праз сельсаветы, распаўсюджваецца таксама і на непрацаздольных членаў сем'яў вайскоўцаў-льготнікаў, з тым, аднак, што выплата дапамог ім адбываецца ў тэрміны, паказаныя ў абежніку НКФ і НКСЗ БССР за 6 красавіка 1929 г. № 2402—9(3) (Бюл. СНК БССР 1929 г. № 4(63), стар. 38).

11. Раённыя выканаўчыя камітэты абавязаны прыняць належныя захады да шырокага азнаямленьня кантынгэнту сацыяльнага забясьпе-

чаньня з устаноўленым гэтым абежнікам новым парадкам выплаты пэнсіі і дапамог.

12. Акруговым фінансавым аддзелам і інспэктарам сацыяльнага забясьпечаньня акруговых выканаўчых камітэтаў прасачыць за дакладным і своечасовым правядзеньнем у жыцьцё гэтага абежніку.

13. Акруговым фінансавым аддзелам прасачыць, каб у бюджэты местачковых і сельскіх саветаў 1929-30 г. былі ўключаны крэдыты, патрэбныя на выплату пэнсіі і пасобкаў кантынгэнту органаў сацыяльнага забясьпечаньня на час з 1 студзеня 1930 г.

Дадатак: Форма ведамасьці № 21 і карткі № 11.

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР *Л. Бунін.*

Нам. Народнага Камісара Сацыяльнага Забясьпечаньня БССР *Л. Адзінцоў.*

6 сьнежня 1929 г.
№ 2414—1 па НКФ,
№ 11 па НКСЗ.

---

Дадатак

........................ Райфінчасьць / савет

Форма № 21.
(§ 113).

# ВЕДАМАСЬЦЬ

на выдачу пэнсіі ........................................................
............................................................................

за „..........“ ............................ месяц 193...... г.

| №№ па парадку | Прозьвішча, імя і імя па бацьку | № пэнсійнай кніжкі | За які месяц | СУМА Інвалід (§.........) | Сем'ям (§.........) | Расьпіска ў атрыманьні пэнсіі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| | | | | | | |

---

........................ Райфінчасьць / Савет

Форма № 11.
(§ 114 і § 115).

# КАРТКА АСАБОВАГА РАХУНКУ ПЭНСІЯНЭРА.

Прозьвішча .................. імя .................. імя па бацьку ..................
Адрас ............................................................................
Пэнсія ўстаноўлена з .................. 193...... г. у суме .................. р. ......... к.

ПАДСТАВА:

Група інваліднасьці або стан забясьпечваемага........................

Тэрміны перагляду становішча здароўя інваліда........................

........................ зьмены ........................

Пэнсійная кніжка альбо пасьведчаньне........................

........................ Дадатковая дапамога ........................

| Час выдачы | За які месяц | СУМА | | Час выдачы | За які месяц | СУМА | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Руб. | К. | | | Руб. | К. |
| | | | | | | | |

## 11. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

### пра плянавае выдаткаваньне мяса-прадуктаў.

На падставе п. 3. літ. „в" і літ. „і" арт. 3 Палажэньня пра НК Гандлю БССР (З. З. БССР 1928 г., № 34, арт. 319) і ў мэтах забясьпечаньня плянавага выдаткаваньня ўсіх мяса-прадуктаў, а таксама і ў мэтах стварэньня неабходных запасаў іх НК Гандлю БССР пастанаўляе:

1. Абавязаць усе дзяржаўныя і каперацыйныя мясазагатоўчыя і мясагандлюючыя арганізацыі выдаткаваньне мяса праводзіць у межах норм, устанаўляемых месячнымі плянамі НК Гандлю БССР.

2. Усю жывёлу і сьвіньняў пасьля адкорму і нагулу, паводле плянавых заданьняў НК Гандлю БССР, а таксама мяса ў салёным і марожаным відзе, якое знаходзіцца ва ўсіх арганізацыях, паказаных у п. 1 гэтай пастановы, выдаткоўваць выключна па нарадах НК Гандлю.

3. Нагляд за выкананьнем гэтае пастановы ўскласьці на акруговых інспэктароў гандлю.

4. Вінаватых у парушэньні гэтай пастановы прыцягваць да адказнасьці паводле арт. 202 Крым. Код.

Народны Камісар Гандлю БССР *К. Бэнэк.*

Сакратар НКГ БССР *Чарны.*

6 сьнежня 1929 г.

## 12. Пастанова Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

**пра зьмену рэдакцыі п. 5 інструкцыі НКУС і НКЮ БССР за 5 мая 1928 г. „Па пытаньнях, зьвязаных з ажыцьцяўленьнем дэкрэту аб адлучэньні царквы ад дзяржавы ў БССР“.**

Народныя камісарыяты—Ўнутраных Спраў і Юстыцыі БССР пастанаўляюць п. 5 інструкцыі свае за 5 мая 1928 г. „Па пытаньнях, зьвязаных з ажыцьцяўленьнем дэкрэту аб адлучэньні царквы ад дзяржавы ў БССР“ (Бюл. СНК БССР 1928 г., № 6) скласьці ў наступнай рэдакцыі:

„5. У сямідзённы тэрмін з моманту адбыцьця тэй ці іншай зьмены ў складзе служнікаў культаў, у складзе саветаў брацтваў і ў складзе пяцёрак, рэлігійныя аб‘яднаньні і арганізацыі павінны паведамляць адпаведныя органы па месцу сваёй рэгістрацыі“.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных
Спраў БССР *Я. Кроль.*

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *Міхайлаў.*

21 сьнежня 1929 г.
№ 84.

---

Узгоднена з НКЮ БССР.

## 13. Загад па Вышэйшаму Савету Народнае Гаспадаркі і Народнаму Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

**пра меры папярэджваньня папсаваньняў электраперадач і тэлефонных ліній 1-й Беларускай Дзяржаўнай Асінаўскай Электрастанцыі імя т. Сталіна „Асінбуд“ і папярэджваньня няшчасных выпадкаў, зьвязаных з папсаваньнем ліній.**

Для папярэджваньня папсаваньняў электраперадач і тэлефонных ліній 1-й Беларускай Дзяржаўнай Асінаўскай Электрастанцыі імя т. Сталіна і каб унікнуць няшчасных выпадкаў, зьвязаных з папсаваньнем ліній, ВСНГ і НКУС БССР пастанаўляюць забараніць:

1. Узьлазіць на слупы, на якіх праведзены электрычныя правады.
2. Узьлазіць на трансфарматарныя будкі і падстанцыі і агароджы вакол іх.
3. Разьбіваць ізалятары, страляць з паляўнічых ружжаў альбо іншай зброі па ізалятарах і правадох.
4. Накіроўваць вадзяны струмень на правады і мачты (слупы).
5. Торгаць і разьвіваць адцяжкі і падпоркі, якія падтрымліваюць слупы.
6. Пушчаць папяровыя зьмеі паблізу ад паветраных электрычных правадоў.
7. Закідваць на правады якія-б та ні было рэчы, як-та: дрот, абручы, часткі інструмантаў, вяроўкі і г. д.
8. Датыкацца да электрычных правадоў, як вісячых, так і абвісшых, ці ўпаўшых на зямлю са слупоў.
9. Разводзіць па трасе лініі перадач кастры.
10. Ускопваць зямлю бліжэй чым на 2 мэтры ад апор.

11. Будаваць будынкі і праводзіць насаджэньні дрэў бліжэй чым 10 мэтраў ад межаў трасы ліній.

12. У выпадку неабходнасьці зрубкі дрэў каля электраправадоў, прымаць усе меры для папярэджаньня магчымасьці папсаваньня электраправадоў пры паданьні дрэў.

13. Асобы, вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы, падлягаюць адказнасьці ў адміністрацыйным парадку — штрафу да 100 р. альбо прымусовым работам да 1 месяца.

Калі ў парушэньнях гэтай пастановы ўглядаюцца прызнакі наўмыснага зьнішчэньня альбо папсаваньня ліній перадач або тэлефоннай лініі, то вінаватыя прыцягваюцца да адказнасьці паводле 71 альбо 262 арт. арт. КК БССР.

14. Нагляд за ажыцьцяўленьнем гэтай пастановы ўскладаецца на раённыя выканаўчыя камітэты праз сельсаветы, органы міліцыі і лясную варту.

Аб усіх выяўленых выпадках парушэньня гэтай пастановы праз папсаваньне электрычных і тэлефонных правадоў, папсаваньне апор, або пры няшчасных выпадках з людзьмі і жывёлай па лініі — памянёныя органы ўлады безадкладна паведамляюць тэхнічны нагляд за лініямі.

*Увага.* Кіраўніцтва ДРЭС паведамляе акруговым выканаўчым камітэтам аб пунктах, у якіх знаходзяцца органы тэхнічнага нагляду па вучастках, а акруговыя выканаўчыя камітэты паведамляюць гэтыя весткі райвыканкомам і сельсаветам.

Старшыня Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі БССР *Р. Грысевіч.*

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

6 сьнежня 1929 г.

---

## 14. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра аплату працы адказных палітычных работнікаў.

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Для аплаты адказных палітычных работнікаў, якія займаюць пасады, паказаныя ў далучаным да гэтага падзеле, устанаўляецца наступная 6-ці разрадная шкала асноўных ставак штомесячнае ўзнагароды.

2. Усе акругі БССР разьмяркоўваюцца на два паясы: II-гі і III-ці. Да II-га поясу належаць: Менская, Віцебская і Гомельская акругі, да III-га—Бабруйская, Магілеўская, Аршанская, Мазырская і Полацкая.

3. Асноўныя стаўкі па тарыфных паясох устанаўляюцца па-разрадна наступныя:

| Тарыфныя паясы: | I раз. | II раз. | III раз. | IV раз. | V раз. | VI раз. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| II-гі пояс . . . . . | 80 р. | 90 р. | 100 р. | 110 р. | 115 р. | 130 р. |
| III-ці пояс . . . . . | 75 р. | 85 р. | 90 р. | 100 р. | 110 р. | 120 р. |

4. Апроч асноўных ставак для адказных палітычных работнікаў можа быць устаноўлена дадатковая аплата (за нагрузку) у адпаведнасьці з нагружанасьцю работніка, яго кваліфікацыяй і важнасьцю альбо адказнасьцю выконваемай ім работы. Гэта дадатковая аплата не павінна перавышаць наступных разьмераў:

| Тарыфныя паясы: | Максымальныя разьмеры дадатковай аплаты: | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | I раз. | II раз. | III раз. | IV раз. | V раз. | VI раз. |
| II-гі пояс . . . . . | 30 р. | 45 р. | 75 р. | 90 р. | 110 р. | 130 р. |
| III-ці пояс . . . . . | 30 р. | 40 р. | 70 р. | 85 р. | 105 р. | 120 р. |

Разьмеры дадатковае аплаты (за нагрузку) устанаўляюцца кіраўніком адпаведнае ўстановы, прадпрыемства альбо арганізацыі.

5. Асноўныя стаўкі (арт. 3) і дадатковая аплата (арт. 4) зьніжаюцца на $10^0/_0$ для асоб, якія працуюць у сельскіх мясцовасьцях, у параўнаньні з стаўкамі акруговых гарадоў па паясному падзелу. Незалежна ад гэтага НКП БССР па згодзе з ЦСПСБ можа зьніжаць для паасобных мясцовасьцяў і раёнаў, у залежнасьці ад іх мясцовых умоў, асноўныя стаўкі і дадатковую аплату.

6. У паасобных выпадках, у адпаведнасьці з дзяржаўнай важнасьцю работы, выконваемай паасобнымі работнікамі, можа быць дапушчана і павышаная аплата (па большаму разраду, альбо па вышэйшаму поясу). Гэта павялічаная аплата ўстанаўляецца НКП па згодзе з ЦСПСБ.

7. Адказныя палітычныя работнікі, якія аплачваюцца па нормах гэтае пастановы, ня маюць права атрымліваць аплаты за работу па сумяшчэньню, альбо за іншыя віды работ, апроч літаратурнай і настаўніцкай работы. Аплата паказанай літаратурнай і настаўніцкай работы робіцца паводле чынных па гэтым пытаньні палажэньняў.

8. Пры вылічэньні сярэдняга альбо фактычнага заработку адказнага работніка (пры выдачы выхадное дапамогі, кампэнсацыі за нескарыстаны водпуск, пад'ёмных, сутачных пры пераводах і г. д.) у разьлік уключаецца як асноўная стаўка, так і дадатковая аплата. Сутачныя пры камандыроўках вылічаюцца з разьліку асноўнай стаўкі і дадатковае аплаты.

9. Сакратары фабрычна-заводзкіх ячэяк КП(б)Б, а таксама старшыні і сакратары фабрычна-заводзкіх камітэтаў павінны аплачвацца па сярэдняму заработку рабочых па вышэйшаму тарыфнаму разраду рабочай тарыфнай сеткі гэтага прадпрыемства з тым, аднак, каб іх заработак ня быў ніжэй іх ранейшага (да абраньня) заработку на вытворчасьці.

Да заработку, які вылічваецца у такім парадку, з дазволу стаячых вышэй органаў адпаведнага прафэсійнага саюзу, альбо партыйнага камітэту дапушчаецца дадатковая аплата ў разьмеры ня звыш $25^0/_0$ гэтага заработку.

10. Гэтая пастанова ўводзіцца у сілу з 1-га сьнежня 1929 году. З увядзеньнем гэтае пастановы касуецца пастанова Н. К. Працы БССР за 14 лістапада 1929 г. № 75 (Бюл. СНК 1929 г., № 13).

## ПАДЗЕЛ АДКАЗНЫХ ПАЛІТЫЧНЫХ РАБОТНІКАЎ ПА РАЗРАДАХ.

### I. Агульнае палажэньне.

1. Устаноўлены гэтым падзелам пералік пасад адказных работнікаў мае вычэрпваючы характар і ні ў якім разе ня можа быць пашыраны. Зьмены пераліку робяцца выключна паводле асобных пастаноў Народнага Камісарыяту Працы БССР.

2. Функцыянальнымі аддзеламі, якія паказаны ў гэтым падзеле, зьяўляюцца аддзелы, якія выконваюць асноўную аперацыйную работу ўстаноў, прадпрыемстваў, альбо арганізацый, альбо аддзелы, якія выконваюць работу беспасрэдна зьвязаную з асноўнай аперацыйнай работаю.

3. Ва установах і арганізацыях, па якіх падзел прадугледжвае вызначаны разрад толькі для кіраўніка ўстановы альбо арганізацыі, члены кіруючых калегій (праўленьняў, прэзыдыумаў і да т. п.) аплачваюцца паводле гэтае пастановы толькі ў выпадку, калі яны кіруюць якой-небудзь галіной, альбо часткай работы гэтае ўстановы, альбо арганізацыі і тарыфікуюцца ў гэтым выпадку на адзін разрад ніжэй кіраўніка адпаведнае ўстановы альбо арганізацыі.

4. Намесьнікі, альбо памоцнікі, апроч выпадкаў, спэцыяльна прадугледжаных ў падзеле, тарыфікуюцца на адзін разрад ніжэй сваіх кіраўнікоў (загадчыкаў, начальнікаў і да т. п.).

5. Дзейнасьць пастановы пашыраецца: а) ва установах і арганізацыях, якія дзеляцца беспасрэдна на кіраўніцтвы—на загадчыкаў функцыянальных аддзелаў гэтых устаноў, альбо арганізацый; б) ва ўстановах і прадпрыемствах, якія дзеляцца беспасрэдна на аддзелы—на загадчыкаў функцыянальных аддзелаў, а калі аддзелы дзеляцца беспасрэдна на групы (сэктары, бюро, сэкцыі) на загадчыкаў функцыянальных груп (сэктароў, бюро, сэкцый).

Паказаныя ў гэтым артыкуле работнікі тарыфікуюцца на адзін разрад ніжэй начальнікаў альбо загадчыкаў адпаведных аддзелаў і кіраўніцтваў.

6. Адказныя інструктары партыйных і прафэсійных арганізацый ў залежнасьці ад кваліфікацыі, аб'ёму работы, тарыфікуюцца на адзін—два разрады ніжэй загадчыкаў адпаведных аддзелаў.

7. Усе акругі БССР належаць да першае групы.

8. Стаўкі для старшынь РВК: а) у раёнах, якія намечаны да пераходу на суцэльную калектывізацыю, а таксама ў Асьвейскім, Дрысенскім, Валынцаўскім, Ветрынскім і Ушацкім (Полацкае акругі); Бягомльскім, Плешчаніцкім, Лагойскім, Заслаўльскім, Койданаўскім, Капыльскім, Узьдзенскім і Барысаўскім (Менскае акругі); Чырвона-Слабодзкім, Старобінскім, Жлобінскім, Рагачоўскім і Слуцкім (Бабруйскае акругі); Жыткавіцкім, Тураўскім, Калінкавіцкім і Лельчыцкім (Мазырскае акругі); Рэчыцкім і Дабрускім (Гомельскае акругі); Шклоўскім (Магілеўскае акругі); Горацкім, Амсьціслаўльскім і Дубровенскім (Аршанскае акругі) і ўсіх раёнаў Віцебскае акругі — ўстанаўляюцца ў 120 р. і б) ў астатніх, неапералічаных у п. „а“ раёнах—110 р.

Паказаныя стаўкі зьніжэньню не падлягаюць.

### II. Работнікі савецкіх устаноў і прадпрыемстваў.

III-ці разрад.

1. Члены камітэтаў страхавых кас.
2. Праўныя інспэктары працы.
3. Члены акруговых судоў.

IV-ы разрад.

1. Старшыні гарсаветаў гарадоў Магілеву, Воршы, Бабруйску, Мазыра і Полацку.
2. Загадчыкі аддзелаў акрвыканкомаў (акруговыя інспэктары).
3. Старшыні акруговых камітэтаў страхкас.
4. Загадчыкі рабфакаў.
5. Адказныя рэдактары акруговых і рэспубліканскіх газэт, не паказаных у 5-м і 6-м разрадах.
6. Старшыні акруговых судоў.
7. Кіраўнікі банкаў у акругах.

V-ы разрад.

1. Старшыні акруговых выканаўчых камітэтаў.
2. Старшыні гарсаветаў у Менску, Віцебску і Гомелі.
3. Загадчыкі функцыянальных аддзелаў ЦВК БССР.
4. Кіраўнік Спраў і Сакратар СНК БССР.
5. Старшыні і іх намесьнікі сталых камісій і камітэтаў пры ЦВК і СНК БССР.
6. Начальнікі кіраўніцтваў наркаматаў БССР.
7. Загадчыкі самастойных функцыянальных аддзелаў наркаматаў, якія дзеляцца беспасрэдна на аддзелы.
8. Старшыя інспэктары наркаматаў і прыроўненых да іх рэспубліканскіх установ (адказн. палітычн. работнікі), дзе ўстаноўлена функцыянальная сыстэма.
9. Кіраўнікі груп наркаматаў БССР.
10. Кіраўнік Галоўнага Кіраўніцтва касамі ашчаднасьці БССР.
11. Дырэктары і кіраўнікі прамысловых і транспартных прадпрыемстваў з лікам рабочых да 300.
12. Дырэктары, кіраўнікі і іх намесьнікі трэстаў, камбінатаў з лікам рабочых да 10.000.
13. Кіраўнікі і члены праўленьняў акцыйных таварystваў (апроч прамысловых, транспартных, альбо крэдытных) з статутным капіталам да 5.000.000 р.
14. Старшыні і члены калегій Найвышэйшага Суда БССР.
15. Акруговыя пракуроры.
16. Пракуроры пры калегіях Найвышэйшага Суда БССР.
17. Рэктары ВНУ.
18. Дырэктары навукова-дасьледчых установ ЦВК, СНК і наркаматаў БССР.
19. Адказныя рэдактары рэспубліканскіх газэт „Рабочы“, „Савецкая Беларусь“ і „Акцябр“.
20. Члены праўленьняў банкаў рэспубліканскага значэньня.

VI-ы разрад.

1. Старшыня і Сакратар ЦВК БССР.
2. Старшыня і намесьнікі старшыні СНК БССР.
3. Народныя камісары, іх намесьнікі і члены калегій наркаматаў.
4. Старшыня і члены Прэзыдыуму Дзяржпляну.
5. Старшыня і намесьнікі Старшыні ВСНГ БССР.
6. Старшыня Падрыхтоўчае Камісіі СНК БССР.
7. Упаўнаважаныя наркаматаў СССР пры Ўрадзе БССР.
8. Сталы Прадстаўнік і яго Намесьнік Ураду БССР пры Ўрадзе СССР.

9. Кіраўнікі трэстаў, камбінатаў, прамыслозых акцыйных таварыстваў з пераважным удзелам дзяржаўнага капіталу з колькасьцю рабочых звыш 10.000 чал.

10. Старшыні акцыйных таварystваў (апроч транспартных, прамысловых, альбо крэдытных) з пераважным удзелам дзяржаўнага капіталу з статутным капіталам звыш 5.000.000 р.

11. Кіраўнікі банкаў рэспубліканскага значэньня.

12. Старшыня Праўленьня Дзяржстраху.

13. Старшыня Найвышэйшага Суда БССР.

14. Кіраўнікі, дырэктары прамысловых і транспартных прадпрыемстваў з лікам рабочых звыш 300.

15. Пракуроры Найвышэйшага Суда.

16. Прэзыдэнт Беларускае Акадэміі Навук.

17. Адказны Рэдактар газэты „Зьвязда“.

## III. Работнікі арганізацый КП(б)Б.

Старшыні, сакратары, члены парткалегій, кантрольных камісій КП(б)Б, упаўнаважаныя кантрольных камісій ва ўсіх выпадках тарыфікуюцца па разраду, устаноўленаму для сакратароў адпаведнага партыйнага камітэту.

II-і разрад.

1. Сакратары раённых камітэтаў КП(б)Б.

III-ці разрад.

1. Сакратары гарадзкіх раённых камітэтаў КП(б)Б, не пералічаных у 4-м разрадзе.
2. Інструктары акруговых Камітэтаў КП(б)Б.

IV-ы разрад.

1. Сакратары гарадзкіх раённых камітэтаў КП(б)Б у Менску, Віцебску і Гомелі.
2. Загадчыкі функцыянальных аддзелаў АК КП(б)Б.
3. Інструктары аддзелаў ЦК КП(б)Б.

V-ы разрад.

1. Сакратары АК КП(б)Б.
2. Намесьнікі і памоцнікі загадчыкаў функцыянальных аддзелаў ЦК КП(б)Б.
3. Інструктары ЦК і ЦКК.

VI-ы разрад.

1. Сакратары ЦК КП(б)Б.
2. Загадчыкі аддзелаў ЦК КП(б)Б.

## IV. Работнікі арганізацый ЛКСМБ.

I-ы разрад.

1. Сакратары РК ЛКСМБ у Барысаве і Рэчыцы.

II-гі разрад.

1. Сакратары РК ЛКСМБ у акруговых гарадох.

III-і разрад.

1. Сакратары АК ЛКСМБ.

IV-ы разрад.

1. Загадчыкі функцыянальных аддзелаў і інструктары ЦК ЛКСМБ.

V-ы разрад.

1. Сакратары ЦК ЛКСМБ.

## V. Работнікі міжсаюзных арганізацый.

II-гі разрад.

1. Старшыні райпрафбюро.

IV-ы разрад.

1. Сакратары і загадчыкі функцыянальных аддзелаў акр. праф. бюро.

V-ы разрад.

1. Старшыні акрпрафбюро.
2. Інструктары ЦСПСБ.

VI-ы разрад.

1. Старшыня, Сакратар і загадчыкі функцыянальных аддзелаў ЦСПСБ.

## VI. Работнікі прафсаюзных арганізацый.

I-ы разрад.

1. Старшыні праўленьняў раённых аддзяленьняў саюзаў, якія ахапляюць членаў саюзу да 5.000 чалавек.

II-гі разрад.

1. Старшыні Праўленьняў раённых аддзяленьняў прафсаюзаў, якія ахапляюць звыш 10.000 членаў саюзу.

III-і разрад.

1. Старшыні раённых аддзяленьняў прафсаюзаў, якія ахапляюць звыш 10.000 членаў саюзу.
2. Старшыні акруговых аддзяленьняў саюзаў, якія ахапляюць да 10.000 членаў саюзу.

IV-ы разрад.

1. Старшыні акруговых аддзяленьняў саюзаў з лікам членаў саюзу да 25.000.

V-ы разрад.

1. Старшыні, сакратары і заг. функцыянальных аддзелаў ЦП саюзаў, з лікам членаў да 100.000 чал.
2. Старшыні праўленьняў акруговых аддзяленьняў прафсаюзаў з лікам членаў звыш 25.000 чал.

VI-ы разрад.

1. Старшыні, сакратары і загадчыкі функцыянальных аддзелаў праўленьняў саюзаў з лікам членаў саюзу звыш 100.000 чалавек.

### VII. Работнікі каперацыйных і іншых грамадзкіх арганізацый.

1. Старшыні праўленьняў, рэвізійных камісій, спажывецкіх таварыстваў і гарадзкіх ЦРК тарыфікуюцца па разраду, устаноўленаму для старшынь адпаведных выканкомаў, а члены праўленьняў—на адзін разрад ніжэй.

2. Старшыні ўсіх каперацыйных саюзаў тарыфікуюцца на адзін разрад ніжэй старшынь адпаведных выканкомаў.

3. Старшыні каперацыйных цэнтраў тарыфікуюцца па 6-му разраду.

4. Старшыні праўленьняў буйных грамадзкіх арганізацый рэспубліканскага значэньня могуць тарыфікавацца па тарыфу адказных работнікаў з дазволу НКП БССР у кожным паасобным выпадку.

Народны Камісар Працы БССР *М. Гнілякевіч.*

29 сьнежня 1929 г.
№ 83.

---

Час. вык. аб. Адказнага Рэдактара **С. Лодысеў.**